

9

1928

# БЕЛАРУСКІ ПІЯНЭР

Сэкратар ЦК КП(б)Б тав. КНОРЫН (зьлева) і былы сэкратар ЦК ЛКСМБ тав. БАРАНЬНІКА, разглядаюць модэль лінкора „Парыская камуна“—падарунак IX зьезду ЛКСМБ ад маракоў гэтага-ж, падшэфнага Комсамолу Беларусі, лінкора.



Разьдзел 6.

1. Чаму куры купаюцца ў пяску?
2. Якую карысьць у гаспадарцы прыносіць вожык?
3. Адкуль узялося слова „рубель“?
4. Што такое „турнэпс“?
5. Што такое „інтэрнацыянальная капейка“?
6. Якія замежныя дзіцячыя дэлегацыі прыяжджалі ў СССР за 1927 г.
7. Які самы большы ў сьвеце вадаспад?
8. Якім парадкам наладзіць пісьмовую сувязь з замежнымі піонэрамі?
9. Чаму вада ўночы ў рацэ здаецца цяплейшай, чым удзень?
10. Што рухаецца хутчэй за ўсё?
11. Каму зараз належыць горад Пінск?
12. Чаму гнілое дрэва блішчыць у цемнаце?
13. Хто першы сказаў „Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся“?
14. Калі ў першы раз праводзіўся Міжнародны Дзіцячы Тыдзень?
15. Хто зьяўляецца старшыня ЦБ ЮП ЦК ЛКСМБ пасьля IX зьезду ЛКСМБ?
16. З якімі дзяржавамі мяжуецца БССР?
17. Чаму мы раней бачым маланку, а пасьля чуем гром?
18. Ці могуць на асіне яблыкі расьці?
19. Колькі кантаў мае кут?
20. Як зварыць яйцо без агню?

---

**Адказы на разьдзел 5-ы.**

1. Адна сотая частка.
2. Волга і Дон.
3. Есьць.
4. Міхаіл (брат Мікалая).
5. Румыніі.
6. Водзяцца на Каўказе.
7. Зубамі (а ня жалам).
8. Не. Можна ехаць супроць плыні.
9. Гук мы вымаўляем, а літару бачым, пішам.
10. Піонэр ня лаяцца, ня курыць і ня п‘е.
11. Ён забіты ў Польшчы.
12. Гэта найстарэйшыя бальшавікі-камуністыя, якія усё сваё жыцьцё правялі і праводзяць у змаганьні за камуністычны лад.
13. Сэкратар ЦК КП(б)Б.
14. У Кітаі (каля 400 мільёнаў чалавек).
15. З зямлі.
16. Бо чорная матэрыя ўбірае ў сябе вялікі лік праменьняў, белая-ж наадварот.
17. Машына для перагонкі малака.
18. У ліпені м-цы.
19. Назва кніжкі Я. Маўра.
20. Інстытут Беларускае Культуры.

---

**ЗЬМЕСТ**




Рэдколегія: АДЗІНЕЦ М., БАЛІЦКІ А., БРЫГНЕВІЧ Г., ПЯКАРЧЫК А., ЯКІМОВІЧ А.

Адказны рэдактар
А. ПЯКАРЧЫК.

*Год выданьня 4-ы.*

**Да змаганьня за справу працоўных—будзь гатоў!**

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 9** **МАЙ** **1928 г.**

# У МДТ шчыльней згуртуем свае шэрагі!

## Ліст з Нямеччыны.



15 студзеня мы піонэры разам з комсамольцамі маршыравалі па розных вуліцах Бэрліну. Нашы рэвалюцыйныя сьпевы зьвярталі на сябе ўвагу ўсіх жыхароў, а таксама і паліцэйскіх.

Нашы 200 шт. часопісі „Троммэль“ (барабан) і іншыя матар‘ялы для вярбаваньня хутка разышліся, як сьвежыя булкі.



Дэмонстрацыя піонэраў г. Хемніца (Нямеччына).

Калі мы выходзілі на „Фрыдрых штрассэ“ (галоўная вуліца ў Бэрліне), мы сьпявалі „Малады барабаншчык“ і пры апошніх словах:

„Няхай нас застрэляць, як сабаку крывавую,—
Памром за сьцяг чырвоны“...

Падыходзіць да нас паліцэйскі і пытае: „Што азначае наш сьпеў і хто наш правадыр? За гэта на некаторы нас комсамольцы папалі ў паліцыю. Комсамольцаў яны вызвалілі, і мы іх сустрэлі радасным клічам „Будзь гатоў“!

І. Груле.



# Піонэры ў Польшчы.

### Паліцыя арыштоўвае піонэраў.

Умовы, у якіх даводзіцца працаваць піонэрам Польшчы вельмі цяжкія. Гэта, перш за ўсё, ад таго, што піонэры Польшчы прымушаны праводзіць сваю працу ў падпольлі, таксама як комуністыя і комсамольцы. Піонэраў б'юць паліцэйскія, таксама як і дарослых.

Кожны сход піонэрскай групы павінен праходзіць пры строгай канспірацыі (захаваньні). У іншым выпадку сход можа быць разагнаны уладай. Такая праца ясна менш прадукцыйная, і, зразумела, ад гэтага менш вынікаў у рабоце організацыі.

Поруч з упамянёнай перашкодай ёсьць і іншыя перашкоды.

Піонэры ня маюць патрэбных для сябе клюбаў і ня маюць магчымасьці выдаваць сваю друкаваную газэту, якая-б дапамагала аб'яднаць у рабоце ўсю організацыю.

Калі піонэрам патрэбна склікаць сход, дык яны наладжваюць яго у прыватнай кватэры. Гаспадар кватэры заўсёды ў такім разе знаходзіцца пад пагрозай арышту.

Аднак-жа невялічкая газэтка „Піонэр“ выдаецца падпольна на ручной машынцы (гэктографе). Тыя газэткі-лістоўкі, што час ад часу выдаюцца піонэрамі, паліцыя канфіскуе, а ўдзельнікаў выданьня газэты арыштоўваюць саджаюць у турмы.

Усё гэта вельмі перашкаджае працаваць. Але польскія піонэры ведаюць, што ад фашысцкай улады Польшчы чакаць другога чаго—нельга.

### Польскія піонэры ўзмацняюць сваю організацыю.

Яшчэ ў сярэдзіне 1926 года піонэрскія групы ў Польшчы былі зусім малымі, і зьвязаны між сабою былі слаба. Але пры дапамозе комсамолу ўвосень таго-ж году была наладжана конфэрэнцыя піонэраў Варшавы. Гэта канфэрэнцыя падсумавала папярэднюю працу піонэраў і ўнесла пэўны распарадак у тым, як павінна працаваць організацыя. Гэта дало свае вынікі. Праца піонэраў значна палепшылася як у Варшаве, так і ў другіх гарадох. Паляпшэньне працы спрыяла і росту піонэраў. Калі, напрыклад, увосень 1926 году ў Варшаве было толькі сто піонэраў, дык у пачатку 1928 г. піонэраў налічвалася больш за 600. Па ўсёй Польшчы піонэраў ёсьць каля 2500 чалавек.



Рыхтуем здаровую зьмену! (Фінляндыя).

Польскія піонэры разгортваюць сваю працу сярод дзяцей рабочых.

Яны вядуць барацьбу за дармовую школу ў роднай мове, бо, напрыклад, яўрэйскіх дзяцей прымушаюць вучыцца на незразумелай для іх польскай мове.

Польская буржуазія не стараецца даваць дзецям у школах карысных, патрэбных у жыцьці ведаў. Яны імкнуцца ў школах выхоўваць з дзяцей сьляпых паслугачоў, якія будуць баяцца бога і якія ня здольны будуць да змаганьня, да вызваленьня працоўных Польшчы.

Піонэры супроць гэтага выстаўляюць патрабаваньні, каб дзяцей вучылі ў род-

най мове, яны заклікаюць саміх дзяцей не хадзіць у царкву і ня слухацца розных нікчэмных выдумак, усялякіх духоўнікаў. У школах піонэры праводзяць свае сходы разам з вучнямі. На гэтых сходах дзёці патрабуюць палепшаньня вучобы. Рэзалюцыі дзяцей перадаюцца у школьныя рады і друкуюцца ў некаторых газэтах.

Як вынік працы ў школе, *у Заходняй Беларусі было праведзена вучнямі некалькі забастовак.*



Піонэры-фізкультурнікі (Нарвегія).

### Супроць эксплёатацыі дзяцей.

Польскія піонэры пад кіраўніцтвам комсамолу змагаюцца супроць эксплёатацыі дзяцей. Дзяцей у Польшчы працуе вельмі шмат. У аднэй толькі Варшаве ў скураной прамысловасьці працуе 3000 дзяцей. Дзеці працуюць нават у капальнях.

Дзеці уціскаюцца фабрыкантамі, якія іх бязьмерна эксплёатуюць. Вучацца дзеці на прадпрыемствах па 10—12 гадзін у суткі і нічога не атрымліваюць за гэта. „Вучоба" найчасьцей заключаецца ў тым, што чаляднікі павінны выконваць розныя даручэньні гаспадароў у іх хатняй працы. Тыя дзеці, якія ўжо навучацца, атрымліваюць мізэрную пэнсію, мізэрныя грошы 10—12 кап. у дзень.

Піонэры і комсамол Польшчы выступаюць супроць такіх бязьлітасных адносін да дзяцей і патрабуюць, каб праца дзяцей, якім няма яшчэ 16 гадоў, была забаронена. Там-жа, дзе дзеці працуюць, яны дабіваюцца зьмяншэньня працоўнага дня, павялічэньня аплаты.

Польскія піонэры організуюць свае групы на самых вялікіх фабрыках і майстэрнях, каб можна было разам з імі змагацца за палепшаньне жыцьця працоўных.

Піонэры прымаюць чынны ўдзел ва ўсіх кампаніях, якія праводзяцца партыяй і комсамолам.

Летась у часе МДТ піонэры Варшавы організавалі хор і паставілі сваю п'еску ў тэатры.

Піонэры распаўсюджваюць розныя лістоўкі, якія выдае партыя пры ўсялякіх перавыбарах ў гарадзкія самакіраваньні ў бальнічныя касы і г. д. Сваю працу піонэры выконваюць з посьпехам, ня гледзячы на ўсялякую перашкоду паліцыі. У сучасны момант у польскіх турмах сядзяць 10 піонэраў. Аднак піонэры не здадуцца, не спалохаюцца розных арыштаў, а разам з партыяй і камсамолам будуць усё больш узмацняць і яднаць свае шэрагі за лік рабоча-сялянскіх дзяцей. Яны яшчэ больш упарта будуць змагацца за лепшую долю, за вызваленьне працоўных, за Савецкую Польшчу.

---

# Ліст англійскіх піонэраў

## атраду пры асобым аддзеле Беларускага вокругу.

Дарагія піонэры Савецкага Саюзу!

Мы хочам напісаць вам аб сваім жыцьці і аб працы нашай групы. Мы выбралі для кіраўніцтва групай старшыню, сакратара і павадыра. Я—павадыр групы.

На сваіх сходах мы праводзім гутаркі. Гутаркі даводзіцца часьцей усяго праводзіць павадыру. Павадыр павінен га-

варыць ня больш поўгадзіны. Пасьля гэтага піонэры даюць пытаньні і выказваюцца.

Павадыр групы чытае часта лісты, якія мы атрымліваем ад іншых груп. Усе бываюць вельмі рады, калі атрымліваюць такія лісты.

Нядаўна мы ставілі п‘еску, якая была нам прыслана з ЦБ Англійскіх піонэраў. У гэтай п‘есцы, расказваецца аб двух хлопчыках, якія перайшлі з скауцкай арганізацыі ў піонэрскую.

У канцы сходаў мы праводзім Швэцкую гімнастыку. Піонэры вельмі цікавяцца народнымі танцамі і, я думаю, неўзабаве заняцца вывучэньнем іх разам з піонэрамі. Саюз Юных Піонэраў карыстаецца музычным клюбам.

У далейшым мы спадзяемся заняцца экономікай і гісторыяй рабочага руху.

На будучым тыдні нам прышлюць з Цэнтральнага Бюро (Лёндан) новыя гульні. Вы напэўна заўважылі, што я не ўпамінаю нічога аб харавых сьпевах на нашых сходах. Справа ў тым, што нам нельга сьпяваць, бо гэтым мы будзем перашкаджаць працаваць іншым організацыям.

Сходы адбываюцца часьцей за ўсё дома ў павадыроў.

Дарагія таварышы, калі-б вы ведалі, як нам хочацца мець гэткія школы, як і ў вас. Тыя з ангельцаў, якія любяць дзяцей рабочых, зробяць усё для таго, каб нам жылося таксама добра, як і вам.

З піонэрскім прывітаньнем

**Мэры Фрэнсіс Окдэйл.**

P. S. Гэты ліст я напісала па даручэньню нашай групы.

---

# ПІОНЭРСКІ ГАМБУРГ.

А 9-й гадзіне раніцы мы з Бруно падыходзім да Акруговага Камітэту Партыі і Комсамолу. Сярод шматлікіх пакояў, урэшце, знайшлі маленькі пакойчык, дзе зьмяшчаецца Акруговае Бюро СЮС.

Пісьмовы стол, шафа з матар‘яламі, шапірограф, паўтузіны стулаў—вось і ўсё абсталяваньне гэтага штабу рэволюцыйных дзіцячых сіл.

Бруно скардзіцца, як цяжка працаваць. Сапраўды. Усе актыўныя кіраўнікі (у тым ліку і ён) працуюць на прадпрыемствах да 6-ці гадзін вечару. У Бюро звычайна нікога няма. (У гэты дзень Бруно яшчэ не працаваў, бо тая фабрыка, на якой ён працаваў, пачынала працаваць толькі заўтра). Увечары-ж пасьля работы, зьбіраецца ўвесь актыўны асяродак, адбываюцца нарады з актыўнымі дзецьмі, кіраўнікамі раёнаў Гамбургу, друкуецца ў Бюро агітацыйны матар‘ял, словам, кіпіць работа. Так працуюць да 12-ці гадзін уночы, а перад якім-небудзь вялікім выступленьнем—усю ноч. А 6-й гадзіне раніцы зноў усе на рабоце.




Часопіс нямецкіх піонэраў „Дзі Троммэль“ (Барабан).

Раней, кажа, было крыху лягчэй: былі беспрацоўныя хлопцы. На іх і выяжджалі. Яны працавалі і ўдзень, і ўвечары. А цяпер іх амаль няма. Усе актыўныя сілы знайшлі работу, прыходзіцца лезьці з скуры.

Ну, думаю, папрацавалі-б нашы райбюро ці Губбюро (Акр. бюро ў іх адпавядае нашаму Губбюро) бяз аднаго платнага працаўніка,—загаласілі-б!

Пачынаю знаёміцца з матар‘ яламі апошняй вялікай кампаніі, у сувязі з „днём нараджэньня Гіндэнбурга“.

Прыпамінаю, аб чым гаварылі ўчора, распытваюся зноў у Бруно. Патроху вырысоўваецца малюнак назвычайнай масавай баявой работы.

— „Падрыхтоўку да гэтае работы мы пачалі заўчэсьня. Была склікана нарада кіраўнікоў,

пасьля сход усіх актыўных піонэраў. Там мы проста паставілі пытаньне: „Вось 2 кастрычніка ва ўсіх школах будуць гутаркі аб „збавіцелі нашай бацькаўшчыны“, будуць урачыстыя сьвяты ў гонар прэзыдэнта Гіндэнбурга. Што вы, як піонэры, думаеце зрабіць у працілегласьць гэтай прапагандзе буржуазеі“. Мы атрымалі самыя разнастайныя прапановы. Адны гаварылі, што калі будзе дэмонстрацыя, мы не павінныісьці на яе і гэтым выказаць свой протэст. Другія, наадварот, гаварылі, што так дзейнічаць нельга, што трэба абавязкова пайсьці на дэмонстрацыю, але абярнуць яе ў контр-дэмонстрацыю з рэволюцыйнымі лёзунгамі і песьнямі. Трэція гаварылі, што трэба, што-б там ня было дабіцца, каб ня толькі мы адны выступалі, а каб разам з намі выступалі вучнёўскія масы. На гэтым апошнім мы спыніліся асабліва падрабязна і вынесьлі шэраг канкрэтных пастаноў для ўсіх школьных ячэяк *).



Жывая газэта нямецкіх піонэраў (сцэнка арышту паліцэйскімі піонэра).

Па-першае, кожная ячэйка і група павінны выпрацаваць зразумелыя кароткія лёзунгі, якія-б прыцягнулі як мага больш школьнікаў да барацьбы.

Па-другое, кожны піонэр у клясе павінен знайці прыхільнікаў піонэрам. Тут быў прапанаваны арыгінальны спосаб для пазнаваньня, на каго з вучняў можна спадзявацца, што яны пойдуць з намі.

Аказваецца, трэба паглядзець, у якую газэту ў яго ўкручана сьнеданьне. Калі газэта камуністычная, дык значыць, у яго сям'і спачуваюць нашай барацьбе, і ён можа быць, у першую чаргу, зьвязаны з намі.

Па-трэцяе, трэба выдаць які-небудзь друкаваны матар'ял з малюнкамі, які-б прыцягнуў увагу дзяцей і мог быць шырока распаўсюджаны ў часе самага сьвята.

І нарэшце, па-чацьвертае, трэба пастаянна інфармаваць акруговае бюро аб тым, як ідзе падрыхтоўка і паклапаціцца, каб была зроблена моцная сувязь між усімі піонэрамі, ячэйкамі ў групе, між групамі і вышэйшым кіраўніцтвам. У піонэраў была ясная пэрспэктыва дзеяньняў і вялікае жаданьне арганізаваць масавае выступленьне“...

— Ну як-жа ў вас прайшло гэта выступленьне, дабіліся вы чаго-небудзь?— дапытваюся я.

— О, бязумоўна, дабіліся. Гэта кампанія ўдалася нам так, як мы і не чакалі. Але ты-ж ужо бачыў гэта з справаздач ячэяк, як у іх усё гэта праходзіла. Але, лепш, калі ты пагаворыш з самімі піонэрамі. Праз паўгадзіны павінны прыйцці сюды піонэры, і ты з імі зможаш аб усім пагутарыць.

Я пачаў зноў пераглядаць матар'ял і сапраўды знайшоў некалькі справаздач школьных ячэяк і асобных піонэраў, якія давалі яскравае ўяўленьне аб тым,

*) Гамбургская арганізацыя ўся перастроена па прынцыпу школьных ячэяк.




# ПІОНЭРЫ! УНОСЬЦЕ ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНУЮ КАПЕЙКУ.

## Беце буржуазію сваімі інтэрнацыянальнымі капейкамі.

што адбывалася ў школах Гамбургу ў дзень 2 кастрычніка.

Вось што пісалі піонэры:

„Наша кляса была падрыхтавана. Ніхто з вучняў не здрадзіў. Мы ведалі, што дзьверы школы ўнізе запёрты. Загэтым мы зрабілі наступнае: Ганс павінен быў прыйці пазьней. Ён паклапаціўся зараней атрымаць ключ ад настаўніцкага пакою. У настаўніцкай-жа вісеў зьвязак ключоў. Ён павінен быў яго ўзяць і адамкнуць дзьверы ўнізе. Гэтыя-ж ключы трэба было павесіць на старое месца, і замкнуць настаўніцкую зноў. Мы не павінны былі пачынаць, покуль Ганс ня прыйдзе.

Як умоўны знак, што дзьверы ўнізе адпёрты, ён павінен быў, калі вернецца, два разы кашлянуць. Спазьніцца ён мог толькі на 10 хвілін. На 5 хвілін толькі пазьней вызначанага пачалося сьвята, як раз калі настаўнік лаяўся з прычыны нашае школьнае газэткі.

На гэта мы адказалі падняцьцем чырвонага сьцягу. Усё ўдалося, як было ўмоўлена!

Усе клясы ўсьлед за намі пакінулі школу. Па дарозе мы сустрэліся з суседняй школай і пайшлі разам".

А вось што пісалі дзяўчаты ў сваёй справаздачы: „У нас было цяжэй. Мы-ж вучымся ў школе для дзяўчат! Хлопцы мелі сьвята на паўдня раней. Гэта мы ведалі. Умовіліся так, што яны зойдуць па нас. Хлопцы павінны былі перад нашай школай дэманстрыраваць, і мы тады павінны былі пачынаць.

„Як было ўмоўлена, пачалася дэманстрацыя з песьняй у вызначаны час. Усе дзяўчаты падбеглі да акна, нават наш настаўнік. Тады пачуўся крык з школы: „Прэч Гіндэнбурга!"

Мы крыкнулі ў адказ. Нам гэтаксама ўдалося, бо мы ведалі, як дзейнічаць. Палова нашае клясы была падрыхтавана.

Пасьля кліча „прэч" дзяўчаты пакінулі клясу. Хлопцы зараней паклапаціліся адамкнуць нам здабытым ключом дзьверы ўнізе, і мы выбеглі на вуліцу".

— Вось гэта работа!—падумаў я.

В. З.

## Колькі піонэраў ва ўсім сьвеце?

Усіх піонэраў ва ўсім сьвеце к пачатку гэтага году было: 1.976.121. Апрача гэтага, пры піонэр-атрадах арганізаваны групы акцябрат; акцябрат налічваецца к пачатку гэтага году 262000 чалавек.

Вось лічбы па некаторых галоўных краінах:

1) СССР—1.681566 піонэраў. 2) Нямеччына—9000. 3) Францыя—1500. 4) Англія—580. 5) Фінляндыя—3500. 6) Польшча—2.500. 7) Кітай—1500. 8) Чэха-Славаччына—1500. 9) Злучаныя Штаты Амэрыкі—4000. 10) Канада—700.

За апошні час шэрагі піонэрскай арганізацыі некалькі зьменшыліся. Гэта адбылося таму, што шмат якія урады рашуча забаранілі пашырэньне піонэрскіх арганізацый. Забарона перашкодзіла таму, што бацькі, баючыся пагрозы, ня пускаюць сваіх дзяцей у піонэры.

Аднак ня трэба забывацца аб тым, што піонэры абхапляюць сваёй працай і уплыцам толькі сваіх сяброў. Яны шмат працуюць і сярод неарганізаваных. Гэта даводзіць нам хоць бы тое, што колькасьць піонэрскіх газэт разыходзіцца куды большая, чым ёсьць піонэраў. Напрыклад, у Нямеччыне часопіс „Die Trommel" („Барабан"), мае тыраж 18 тысяч, а піонэраў у гэтай краіне 9 тысяч.




*Байка* **А. Якімовіча.**

*Малюнак* Гусева

На ўсходзе сонца то' было.
Найдужых парачку валоў
Спусьцілі ўволю мацавацца.
Здарэньня лёс быў вінавайцам.
І вось сышліся, як дзьве хмары,
Жалезны вол і вол паджары.
На чыстым залатым пакосе
Ім, бедным, стрэцца давялося.
Рыкнуў, затросься галавою,
Паветра раскалоў надвое,
Паджары наш, і рынуўся гарою
На ціхага, рахманага вала.
Рагамі ўпіўся, як страла:
Не на жыцьцё, на сьмерць заеўся—
Габлюе, лупіць па жалезе.
А той стаіць упарта, бы казёл,
На сьмеласьць гостры, хоць і гол.
Стаіць сабе і пасьміхаецца на сонца,
Бо сілу чуе, чуе моц ён,
Упёрся збольшага адно ў разору.
Шалее наш паджары, бянтэжыцца ад гора:
І ні стаяць, ні прамінуць яму,
Перамагчы—слабы хамут.
Тут, бедны ён, ад роспачы бязсільля
Рыкнуў на сотню міляў.
Ажно затрэслася вакол зямля,
Нібы пярун пачаў страляць...

На гэту пору пастухі што духу
(Адзін дык з молатам, другі—з даўжэзнай пугай)
Імчацца іх разбараніць
І мірам забіяк угаманіць.
Усё ад слова і да слова
Валы ім вылажылі у сваёй валоўскай мове:
Як і адкуль, у якім часе
Такі нялад у іх пачаўся.
„Ня люба мне вайна зьнянацку"—
Стаў з пугаю пастух мяшацца:—
„А вось, каб мне пераканацца,
Хто больш патрэбны ў працы—
Тут справа будзе ў закладзе:
Хто пераможны—той асядзе".
„Ну, гэта-ж золата, не прапанова"—
Другі пастух уставіў слова.
І ўсе на гэтым-жа сыйшліся.
Валы-ж у хамуты ўпрагліся...

---

Ня ведаю, ці доўга патрывае
Паджары наш пасьля закладу...
Ды толькі-ж і цяпер, канаючы, ён праклінае
Такую мудрую параду.

# Растуць новыя будаўнікі.

## Паравозы, караблі, кулямёты...

Летні сад Наркамфіну поўны дзетвары. Вясёлыя гульні вабяць іх сюды з усіх канцоў вуліцы. Іхняе шчабятаньне і сьмех перапаўняюць сад. Трохі воддаль стаіць невялікі будынак, падобны з першага погляду хутчэй на якую-небудзь адрыну. На дзьверах невялікая абвестка:

ЛЯХАЎСКАЯ РАЁННАЯ ПІОНЭРСКАЯ
І ШКОЛЬНАЯ ВЫСТАЎКА

Калі дзяжурны піонэр адчыніў выстаўку, туды хлынула грамада піонэраў і школьнікаў, якая чакала адчыненьня выстаўкі.

На бліжэйшай сьцяне, сярод калекцыі газэт піонэрскіх атрадаў і школ кідаецца ў вочы сваім прыгожым выглядам насьценгазэта польскага дзіцячага дому, прысьведчаная памяці Ільліча. На агульным фоне маўзалею Леніна зьмешчан увесь матар'ял газэты. Усіх газэт на выстаўцы прадстаўлена каля 10.

Самы вялікі па сваім памеры гэта аддзел малюнкаў. Тут і малюнкі, выканаsuccessors ныя алоўкам, тушшу, атрамантам і нават масьленай фарбай. Гэты аддзел у большасьці запоўнены школамі.

Найбольш цікавым сярод гэтых малюнкаў зьяўляецца портрэт Максіма Горкага намаляваны алоўкам 15-ці гадовым вучнем 4-ай сямігодкі *С. Гельбергам.* Ім-жа зроблены шмат іншых малюнкаў. З астатніх малюнкаў найбольш цікавымі зьяўляюцца і спыняюць увагу дзяцей малюнак „вясны“ вучня *Юхневіча*, „Варашылава“—*Шатэрніка* і малюнак „зімой у лесе“ выкананы пяром *Жылінам.*

Надта ўдала пададзена ў малюнках эскурсія чацьвертай школы на ганчарны завод. Малюнкамі перададзены ўвесь вытворчы працэс на заводзе.

Піонэры атраду Архітэктурна-Дарожна-будаўнічага тэхнікуму далі адзін экзэмпляр лепкі—„рабочага“.

Але больш усяго цікавіць праца тэхнічных гурткоў. Дзяўчата ніяк ня могуць нацешыцца чыстай і прыгожай працай рукадзельля швэйных гурткоў.

— Дзяўчата! Сюды скарэй, сюды!

— Ну, чаго там загледзеліся на малюнкі.

Тут цікавей!

А калі ўжо ўсе дзяўчата сабраліся, пачынаюць меркаваць:

— І ніяк мне ня верыцца, каб гэта зрабіла васьмігадовая дзяўчынка. Вось маладзец!

Гэта ім дзіўна і ня верыцца, што такія карункі магла вырабіць васьмігадовая дзяўчынка Лапкоўская з атраду Рабземлеса. Некаторыя з дзяўчат зайздросна паглядаюць на экспонаты і кажуць:

— Трэба і нам дабівацца ў атрадзе гэткіх гурткоў!



Вучні-фізкультурнікі на дэманстрацыі 1-га Мая (г. Менск).

Ньютона спэктральныя колеры пры хуткім вярчэньні даюць уражаньне белага колеру, спрачаюцца, круцяць модэль і шмат хто ніяк ня можа ўцяміць, як гэта ўтвараецца белы колер.

— Глядзі! Глядзі! Страляе! — крычыць нехта з другога кутка.

Гэта група сабралася навокал модэлі кулямёта, які страляе коркамі. Піонэры атраду заходніх чыгунак зрабілі модэль паравоза.

І хто лепш за іх можа ведаць пабудову паравоза! Таму



*Прышла вясна: даёш свой піонэрскі агарод!*

Атрад Нарсувязі даў на выстаўку сьцяг вышыты рукадзельным гуртком. На сьцягу вышыта: „Да барацьбы за справу працоўных—будзь гатоў!“

Каля стала з рознымі модэлямі поўна хлопцаў. Ды і сапраўды гэта самы цікавы для іх аддзел выстаўкі. Каля модэлі, дзе паказана, як згодна закону яны ня выпусьцілі наймалейшай падрабязнасьці. Нават машыністага пасадзілі!

Зьвяртае на сябе ўвагу модэль лінкора „Парыская Комуна“ зробленая атрадам пры рабфаку.

Калі прышлося зачыняць выстаўку, гледачы вельмі нездаволена пакідалі яе.

**Ал. Вясновы.**

---

# Бабруйскія піонэры за працай.

У гарадзкой піонэрскай організацыі пачала наладжвацца тэхнічная праца і гадзіна адпачынку.

Атрад пры лясным заводзе № 7 задумаў організаваць у сябе гурток тэхнічнай працы.

Для організацыі такога гуртка неабходна было мець грошы: для закупкі струмэнту. Ні саюз, ні камсамольская ячэйка не маглі памагчы піонэрам у гэтым пачынаньні.

І вось аднаго разу, калі ў клюбе быў вечар, піонэры наладзілі буфэт. На другі раз яны самі прапусьцілі некалькі кіно-сэансаў і такім чынам сабралі сабе трохі грошай. За гэтыя грошы яны купілі сабе струмэнту і організавалі сталярны гурток.

Сталярны гурток пачынае працаваць. З вялікай радасьцю піонэры пачынаюць працаваць у ім, і кожны хоча што-небудзь рабіць. Але ня ўсё яшчэ добра: няма матар'ялаў для гуртка, і няма кіраўніка. І з гэтага піонэры знаходзяць выйсьце.

Матар'ялы як-небудзь знаходзяць, і дзякуючы вялікаму жаданьню працаваць, працуюць бяз кіраўніка.

Праца кіпіць... звонкімі песьнямі, раднымі крыкамі, напоўнена майстэрня. Раней праўленьне клюбу не зварочвала увагі на піонэраў, таксама і рабочыя.

Цяпер яны дзякуюць піонэраў. Гурток ужо зрабіў скрынкі для сьмецьця і яшчэ некалькі рэчаў для клюбу. З гэтага моманту піонэры заваявалі аўтарытэт сярод рабочых. Кожны раз, калі бывае ў клюбе вечар, першых прапускаюць у

клюб піонэраў. У тым-жа атрадзе організавана гадзіна адпачынку.

Пасьля збору атрада, той ці іншы піонэр, расказвае сьмешныя апавяданьні, а хто хоча гуляе ў тую ці іншую гульню: у шахматы, шашкі і г. д.

Пасьля таго яны бяруць вінтоўку, выстрайваюцца, маршыруюць, вучацца страляць.

Акрамя вялікай зацікаўленасьці працай атраду самых піонэраў, зацікаўлены іх працай і бацькі.

Атрад пры саюзе Рабіс организаваў два гурткі: радыё-гурток і швэйны. Швэйным гуртком кіруе матка аднаго піонэра. Піонэры вельмі зацікаўлены ў працы і з вялікай ахвотаю працуюць у гуртках.



*Я вельмі ахвотна працую ў майстэрні.*

У атрадзе пры Акруговым Грашовым Аддзеле праводзіцца гадзіна адпачынку. У гэту гадзіну акрамя розных гульняў піонэры займаюцца рашэньнем задач, рэбусаў, шарад і г. д.

Бабруйск, 110 атрад. **Бэнцыянаў.**

# „Чаму няма месца ў клюбе?“

Многа ў нас яшчэ такіх атрадаў, якія ня маюць уласнага кутка для заняткаў. Ды і што гаварыць пра асобныя атрады, калі цэлыя групы атрадаў разам ня маюць уласнага кутка. Але справа яшчэ і ня ў гэтым, не абавязкова-ж кожнаму атраду мець свой клюб або куток, каб загадчыкі нардомаў або хат-чытальняў хоць палюдзку адносіліся да дзяцей.

Вось як пра гэта піша Дашкевіч з г. Пятрыкова: „За адсутнасьцю клюбу ў атрадах ня бывае па 3 тыдні збораў. Разумна час адпачынку дзецям правесьці няма дзе, а калі яны прыходзяць у нардом, дык іх адтуль выганяюць, кажучы, што нардом для дарослых“...

Ня гледзячы на гэтае, нардом выпісвае дзіцячую літаратуру... Цікава, хто-ж яе будзе чытаць?

Ня лепш справа і ў мястэчку Круглым, што на аршаншчыне, а лепш можа тольк тым, што там дзяцей гоняць з клюбу ня проста, а „як сабак“, як піша дзяткор „Кузьма“. У Менску атрад пры гідротэхнікуме пад дажджом увосень праводзіў зборы атраду ў садзе.

Якая-ж можа быць праца ў піонэратрадзе, калі працаваць у такіх умовах? І што можа цікавіць піонэра ў сваім атрадзе?

Дзе-ж будуць піонэры і наогул дзеці праводзіць свой адпачынак і карысна скарыстоўваць час пасьля таго, як іх выганяюць з клюбу дарослых, а ўласнага клюбу яны ня маюць! Вядома, на вуліцы, на вечарынках, за курэньнем і інш.

А вось пры Зэмбінскім 31 атрадзе ёсьць клюб. Здаецца ўсё павінна быць добра! Вось што піша аб ім піонэрка Зомэрфэльд:

„Пры нашым атрадзе ёсьць клюб, але піонэры ня любяць яго. У ім нельга праводзіць ні збораў атраду, ні заняткі зьвеньняў, бо ў ім заўсёды холадна. Пустэча, а ня клюб“.

Вось у такіх, або яшчэ горшых умовах працуе вялікая частка атрадаў. Чымжа тлумачыцца тое, што піонэры ня могуць знайсьці сабе прытулак хоць-бы ў агульным клюбе або нардоме дарослых? Які-небудзь загадчык Круглянскага або Пятрыковіцкага нардому вытлума-

чыў-бы гэта тым, што піонэры сваімі песьнямі і гульнямі перашкаджаюць дарослым. Аднак трэба лічыць, што гэта ня зусім так. Калі чытачы тыя-ж самыя бацькі піонэраў (а гэта, мусіць, так), то напэўна кожнаму бацьку будзе прыемней бачыць сваё дзіця ў клюбе, чым на вуліцы, хоць яму трохі і перашкодзяць. Нарэшце, можна так разьмяркаваць працу, каб дзеці дарослым не перашкаджалі.

Што-ж зрабілі шэфы і камсамольскія ячэйкі вышэйпамяненных мястэчак, каб забясьпечыць атрады клюбамі: „Шэф круглянскіх піонэраў—спажывецкая кооперацыя, дапамогі атрадам амаль ніякой не дае. Рэдка калі выкіне паперы на дзеньнікі. А што датычыцца літаратуры, гальштукаў,—тут зусім кепска... А аб клюбе і марыць няма чаго...“ Гэта піша той-жа „Кузьма“.

„А ячэйка за дрэнную працу ў атрадзе грэе павадыра, а ня думае аб прычынах дрэннае працы“. Добра весьці працу можа толькі той атрад, які мае свой клюб. Установы павінны дапамагчы ў гэтым піонэрам! У крайнім выпадку, нардом павінен даць піонэрам і дзецям асобны пакой у клюбе.

**А. В.**

## Бярэце прыклад.

*(Дамановічы, Мозырскай акругі).*

Нашы вучні дрэнна чытаюць таму, што мала чытаюць кніжак. Мы ўтварылі сваю школьную бібліотэку.

Адны вучні далі кніжак, другія грошай, і так у нашай бібліотэцы сабралася каля 150 кніжак.

Вылучылі аднаго вучня, які раздае кніжкі. Цяпер вучням добра. Падвучацца трохі чытаць. Раней, як ня было ў нашай школе бібліотэкі, вучні ня мелі дзе чытаць. У хатучытальнюісьці далёка, ды пакуль прыдзеш, дык і чытальня зачыніцца. Раім усім школам так зрабіць.

**Яльянаў-Савіцкі.**

## Маем дасягненьні.

Двухтыднёвік Парыскае Камуны ў нас у школе прайшоў добра. Ячэйка МОПР‘у сабрала каля трох рублёў (2 р. 84 к.) дабраахвотных узносаў. Уцягнула дваццаць восем чалавек новых сяброў. Цяпер ячэйка пры школе налічвае 114 сяброў МОПР‘у. Ячэйка распрадала за зіму МОПР‘аўскай літаратуры на сем рублёў; наладзіла гурток бягучай палітыкі, куды запісалася каля 30 чалавек.

Мяст. Капаткевічы, Мен. акругі.

**А. Бондар.**



Будучыя кавалерыстыя.

# За культурную моладзь.

...Калі маленькі званочак весела прадзінгаў па вузкіх калідорах менскай 1-й школы Заходняй чыгункі і настаўнік вышаў з клясы, вучні, як пчаліны рой у добрае надвор‘е, весела загулі.

Маладзейшыя—бегалі, сьпявалі, крычалі. Некалькі больш сталых вучняў сядзелі на лаўцы і вялі размову. У гэты час каля іх шпарка праходзіла, нешта радасна бармочучы сабе пад нос і весела ўхмыляючыся, вучаніца Раецкая. Нехта з хлапцоў, што сядзелі на лаве, падставіў нагу і дзяўчынка, моцна стукнуўшыся аб падлогу, разьбіла сабе галаву. Ад гэтага яна цяжка захварэла і зараз зусім асьлепла.

...Дзеці вёскі *Ахімкавічы*, з мэтай набыць сабе пару капеек на тутун і папяросы, адразаюць конскія хвасты і прадаюць іх прыватным скупшчыкам. Прыедзе дзядзька з суседняй вёскі ў Ахімкавічы, паставіць каня на хвіліну на вуліцы, зайдзе да знаёмага, а ў гэты час хлапчукі падбягуць з ножнамі, адрэжуць хвост па самую макаўку..

...Ляднянскія піонэры надзвычайна многа кураць. Як толькі скончыцца збор атраду, або заняткі ў школе, яны бягуць на агароды, хаваюцца за хлявы і там задавальняюць свае патрэбы.

...Піонэр Тэўля з Слабадзкога атраду Мазырская акруга) унадзіўся са старымі гуляць у карты. Як толькі выдарыцца вольная хвіліна, Тэўля бяжыць да карцёжнікаў і там праседжвае да позняй ночы.



П. Галавач—адказны сакратар Цэнтральнага Камітэту ЛКСМБ, абраны на першым пленуме ЦК пасьля IX зьезду комсамолу Беларусі, што адбыўся ў канцы мінулага м-ца.

...У Бабоўцах жыве стары дзядок. Хатка яго пахілілася і ледзь стаіць. Некалькі хлапчукоў гэтай вёскі, сярод іх ёсьць і піонэры, кожны вечар падбягаюць да хаткі гэтага дзеда, стукаюць палкамі ў сьцены, дражняцца рознымі словамі і гэта ім прыносіць нейкае задавальненьне.

Значная колькасьць дзяцей, асабліва вясковых, яшчэ вераць у бога. У часе каляд і вялікадня яны ўцякалі са школы, беглі ў царкву, на п‘яныя бойкі і вячоркі.

Вучню Паўліку далі новы сшытак і запрапанавалі яму пісаць урок. Паўлік сеў за стол, узяў устаўку, падсунуў да сябе бліжэй чарнільніцу і пачаў пісаць. І на першым-жа радку першай старонкі пасадзіў пару няпрыемных кляксаў, зрабіў некалькі памылак. Цяпер вучню Паўліку робіцца няпрыемна: ён хвалюецца за свае памылкі, за памаркі, далейшая яго праца ідзе не на лад, яму здаецца, што яму не шанцуе і выправіць памылку нельга.

**І колькі падобных прыкладаў можна прывесьці? Колькі выбітых шыб, паламаных платоў, паразьдзіраных дрэў налічыш ад дзіцячых разгулаў? Колькі згарэла лесу і будынкаў ад дзіцячых забаў з агнём?**

**Такая прыкрая прывычка ўсё псаваць, кожнаму нашкодзіць, жыць абыяк, неахайна ўкараняецца ў кроў людзей з малаленства. Так жылі дзяды, бацькі, так будзе жыць і сын. Але гэткае бруднае, някультурнае жыцьцё зусім шкодзіць новай грамадзе. Новая комуністычная грамада павінна выкараніць усё нікчэмнае, дрэннае з жыцьця. Новая комуністычная грамада павінна і выхаваць новага чалавека. Гэту задачу ва ўсю шырыню ставіць цяпер перад сабой і партыя і камсамол. Мы, піонэры, ні ў якім разе ня можам не памагаць у гэтым старэйшым сваім бацьком і братом. Мы павінны ў першую чаргу ўзяцца за акультурваньне сябе і праз гэта вучыць культурнасьці ўсіх дзяцей.**

# Новы Мурзілчын даклад

**для школьнікаў, піонэраў і акцябрат**

**Удзельнічаюць:**
1) МУРЗІЛКА, 2) ПІОНЭР-фізкультурнік, 3) ПЯСТУНОК, 4) НЕАХАЙНІК,
5) Хор дзяцей.

Мурзілка.
*(Выходзіць на сцэну).*

А вось і я зьявіўся да вас.
Пачынаць ужо самы раз.
Здаровы, сябры! Папіонэрску вітаюся
ўзмахам рукі
і растлумачваю—хто я такі.
Я—вясёлая громка-гаварылка,
Мурзіл Мурзілыч, таварыш Мурзілка.
Як толькі пачынаеце вы зьбірацца,
Люба да вас заяўляцца.
І, як во зараз, заўсёды я рад
Зрабіць ніштаваты даклад.
Толькі, таварышы, знай дысцыпліну:
Ня гніся—выпрастай сьпіну,
І плечы шырэй,
Ды слухай уважна, уцяміш хутчэй.
Выступаю з дакладам сягоньня новым—
Як стаць дружным, трывалым, здаровым.
Каб ня толькі слухаць, але і назіраць,
Памысьліў я навочна усё паказаць.
Бяру траіх. Піонэра, што любіць фізкультуру,
Чалавека, як пабачыце, баявой натуры.
Пястунка—ён залішне кволы, ня мілы.
Ды неахайніка, што незнаёмы з мылам.
Слухай уважна, не гавары.
*(пляскае далонямі).*
Раз, два, тры!
*(Піонэр цягне за сабой пястунка і неахайніка).*



Ёсьць!.. Заўсёды гатоў!

Піонэр.

Ёсьць!... Заўсёды гатоў!
Прывалок гэтых двух малайцоў.
Штурхаючы іх каленямі пад паджылкі,
сьпяшыў на даклад, таварыш Мурзілка.
Дарогаю памінуў самакатаў з дваццаць,
А рамізьнікаў колькі—дык і пальцаў не набрацца!

Мурзілка.
*(Ківае галавою ў бок піонэра).*

Во, што называецца быць піонэрам.
Прыклад ня кепскі, другім у меру.
Ну і зараз, рабяткі,
Усё ў парадку.
*(Падводзіць к глядачам пястунка).*
Вось, вам таварышы, першая фігура.
Агледзьце яго вы пахмурага.
Гэта-пястун, слабыш і беларучка.
Калі з яго зьняць адзежу, дык будзе во такая кучка *(паказвае).*
А чаму? Бо ён ветрыку нават баіцца,
Пабачце, тут чэрвень, а ён у рукавіцах.

Піонэр.

Дзіўлюся, няўжо ня горача тут яму?

Мурзілка.
*(да пястунка).*

Эх, сьлюцяй! Дай я ў цябе рукавіцы зьніму.
*(Сьцягвае. Рукавіца зьнімаецца і Мурзілка валіцца на падлогу, перакульваецца і ўстае. На руках пястунка відаць яшчэ рукавіцы. Мурзілка зьдзіўлена ўглядаецца).*
Глядзеце! Глядзеце! Адных яшчэ мала,
і другая пара. *(Сьцягвае).*
Ой, ой,! ды што-ж гэта? Трэцяя!

Піонэр.

Ах, Марксе мой! Ня змог-бы цярпець я!
*(Неахайнік у гэты час углядаецца на свае рукі, на пястунка, на гледачоў, якія гэта заўважылі ды сам сабе ціха ўсьміхаецца: ні-то здаволена, ні-то ад нялоўкасьці).*

Мурзілка.

Кара-вву-у-ул!... Ось дык запарыў!...
Брацішкі, на ім і чацьвёртая пара!

Піонэр.

(*Да Мурзілкі*).

Раз ён так укруціў свае рукі,
Дык і штаноў, мусіць носіць з 4 штукі?
(*Перагібае неахайніка ўніз галавою*).



Дай я ў цябе рукавіцы зьніму.

Цягні, Мурзілка.

Мурзілка.

Ня трэба з абудвых. Сьцягнуў з аднэй нагі я,
Ну, так яно й ёсьць—пад імі другія.
(*Неахайнік заходзіць з другога боку, каб і яму палядзець добра. Мурзілка глядзіць на яго, на публіку ды рагоча*).

Піонэр.

Ведаеш што? Часу шкода марнаваць—
Кінем штаны пералічаць...

Мурзілка.

(*Да сходу*).

Бачыце, як да цяпла прывучыў сваё цела—
А ці-ж гэта добрае дзела?

Піонэр.

(*Як бы дапаўняючы словы Мурзілкі*).

Хай толькі будзе сквазьняк маленькі,
Абавязкова прастудзіцца гэты дурненькі.

Пястунок.

(*Зьбянтэжана к піонэру*).

У нас дома сквазьняку ня бывае—
Мама вакон ніколі не адчыняе.

Мурзілка.

(*Да пястунка*).

Дадам таксама:
Не разумная твая мама.
Значыць, сьвежага паветра ня ўпускаеце ў хату ніколі?
Во за гэтым-жа ты і хвараеш.
Разумееш?

(*Разважна*).

Скажы сваёй маме, каб не рабіла так болей.
Ад паветра сьвежага ня можа быць шкоды.

Піонэр.

(*Працягваючы прамову Мурзілкі*).

Яно карысна ва ўсякую квадру году.

(*Да сходу*).

Ды й ня толькі гэта. Вось нашыя мамы,
часамі не разумеючы самі,
Так укруцяць дзіця, нават закрыюць і рот,
А тое расшавеліцца, халодным дыхне і вот
Пачынаецца запаленьне.
Якое-ж у нас, таварышы піонэры, будзе тады
Здаровае пакаленьне?..

Мурзілка.

Ну, з гэтага хопіць—хай дома раскажа.
А цяпер неахайніка ў людзі пакажам.
(*Рукавіцы ляжаць на стале, а пястунок адыходзіць к дзьвярам, становіцца ня сьмела ля вушака. Неахайнік стаіць як і раней, глядзіць на Мурзілку, на піонэра*).

Піонэр.

Правільна. Неахайнік, ідзі сюды!

Неахайнік.

(*Скрануўся з месца*).

Я...

Піонэр.

(*Грозна*).

Што я? Ці ты глухаваты?

Неахайнік.

Не хачу. У мяне смак кепскаваты...

Піонэр.

Да ён-жа глухі!

Мурзілка.

(*Рашуча падыходзіць*).

Во зараз пабачым, чаму ён такі.
(*Падводзіць неахайніка к глядачам і аглядае вушы*).

Цяпер зразумеў. Поўны гразі, хоць рэпу сей.
Піонэр, прапратай хутчэй.
(*Піонэр прачышчае, Мурзілка адыходзіць на сажань*).

Мурзілка.

А цяпер чуеш?

Неахайнік.

Чую, грамадзянін Мурзілка.

Мурзілка.

(*Едка*).

А ня чуў, бо ня вушы былі,
А гразі капілка.

Піонэр.

Ці мыешся раніцай мылам, халоднай вадой?

Ці мыеш рукі перад ядой?

Неахайнік.

(*Глядзіць на піонэра*).

Нашто?

Піонэр.

(*Сьмяецца, за ім сьмяецца і Мурзілка*).

Во дык сказаў. Папаў адразу.
Ды ты-ж гразьніш яду, а гразь—зараза!
А ўмываньне раніцай халоднай вадой асьвяжае цела...
Зразумела?

Мурзілка.

(*Да публікі*).

Наколькі знаёмы ён з мылам,
Відаць, выбачайце за грубасьць, па рылу.
І дзе там халодная вада ўволю...
(*Падыходзіць да неахайніка і нюхае рот*).
І з рота сьмярдзіць. Ён зубы ня чысьціць ніколі.

Піонэр.

(*Да публікі*).

Дзівецеся, таварышы! Вось абармот.

(*Да Мурзілкі*).

А ведаеш што, Мурзілка.

(*Глядзіць на неахайніка*).

Давай апратаем яму рот.

Мурзілка.

(*Рухава*).

Верна. Трымай, а я прынясу мыла, вехаць, шчотку
ды пачнём работу.

Піонэр.

Ну, дык гайда!

Мурзілка.

(*Хутка вяртаецца*).

Во мыла, во шчотка, а вось і вада.
(*Ставіць на табурэт*).

Неахайнік.

(*Замятусіўся*).

Карра-вуул! Хочуць мыць! Ай-ай-ай!

Піонэр.

(*Сьмяецца*).

Вось дурненькі!

(*Да Мурзілкі*).

Давай, брат, давай!

Мурзілка.

(*Бярэ неахайніка, вядзе к услону*).

Супакоіцца зараз, як мілы,
Калі дзягцярным умыецца мылам.
Не як небудзь, а як сьлед. Справа трудная.
А пасьля з чыстымі зубамі папалуднуе.
(*Неахайнік крычыць, вырываецца, але піонэр трымае, а Мурзілка ўмывае ды чысьціць зубы. Пачуўшы крык, убягае гурт школьнікаў*).

Школьнік.

Што гэта такое? Што гэта знача?
Чаго ты хлопчык плачаш?
Цябе пабілі?

Неахайнік.

Не-е-е-е!.. Зубы пачысьцілі!.. умы-ылі-і-і-і!..

Школьнік.

Ну, гэта як раз. Нам і настаўнік загадвае,
каб у гразі ня плавалі.

(*Да Мурзілкі*).

А, Мурзіл Мурзілыч!
Гэта вы яго так ахаялі?..

Мурзілка.

Здаровы, рабяткі. Скажу бяз траты слоў,
Умываць яго заўсёды гатоў.



Давай, брат, давай.

Школьнік.

Верна Мурзілка! Так цікавей і пацешней.

Піонэр.

Ну, таварышы, закончым даклад калектыўнаю песьняй.
Давай! Запявай!

*Запявала і хор, усе разам.*

Мы такім закончым словам—
— Слухай школьнік піонэр,
Для таго, каб быць здаровым
Чыстата адна із мер.
Час праводзь у садзе чыстым,
Адпачні к зіме, к вучобе!
А сьвятло й паветра нам карысны,
Яны—ворагі хваробы.
Не павінна быць паветра сьпёрта—
Вокны ў хаце расчыняй.

І займайся болей спортам,—
Ім здароўе узмацняй.
Будзь трывалым, дужым, моцны целам—
Будзеш добры будаўнік!
Праў Мурзілка, зразумела—
Пястункоў і неахайных
Не павінна быць ані!

*(Хутка).*

Час даклад ужо канчаць.
Гэй, Мурзілку пакачаць!

*(Акружаюць Мурзілку).*

Пакачаць! Пакачаць!
*(Дружна, весела качаюць Мурзілку).*

(Заслона).

**Г. Буравы.**



# Організуйце мітынг.

*(Гульня к М. Д. Т.).*

У гульні прымае удзел атрад.

Усе ўдзельнікі падзяляюцца пароўну на дзьве роўныя партыі: першая з іх—пролетарскія дзеці, другая—паліцыя. У паліцэйскіх на рукавах белыя павязкі, у дзяцей—гальштукі на шыі.

Дзеці сабраўшыся на пэўным якім небудзь месцы, даведваюцца ад каго небудзь з піонэраў аб тым, у якім месцы адбудзецца мітынг, прысьвечаны барацьбе з буржуямі. Пасьля гэтага дзеці ціш-ком, па аднаму, ці невялічкімі групамі, пераходзяць у тое месца, дзе будзе мітынг.

Паліцыя стараецца падпілнаваць дзяцей, каб перашкодзіць мітынгу, сарваць яго.

Перад пачаткам мітынгу піонэры ставяць каравульных, якія сочаць за паліцэйскімі, каб не падышлі яны.

Паліцыя, падкраўшыся да месца мітынгу, стараецца пералавіць дзяцей, якія хаваюцца ад паліцыі, уцякаюць.

Калі удзельнікі мітынгу заўважаць набліжэньне паліцыі раней, чым тая наскочыць на мітынг, яны могуць перанесьці мітынг у другое месца. Паліцыя павінна ў злоўленых зьняць гальштукі. Такія дзеці лічацца арыштаванымі і перастаюць гуляць.

Гульня можа скончыцца ў карысьць дзяцей тады, калі ім удасца да наскоку паліцыі правесьці мітынг, або, калі паліцыя пераловіць да канца гульні (мітынгу) меншую палову удзельнікаў мітынгу.

Калі-ж паліцыя сарве мітынг і пераловіць большасьць удзельнікаў яго, тады гульня лічыцца скончанай у карысьць паліцыі. Тады дзеці нічога ня могуць атрымаць ад буржуазіі з таго чаго яны дабіваліся.

Пажадана ў час мітынгу праводзіць гутарку аб працы і цяжкім матарьяльным жыцьці дзяцей у буржуазных краінах.

Час гульні ня больш 40 хвілін.

Месца гульні: лес, хмызьняк, кусты...






*Апавяданьне вучня* **Д. Малаева.**

*Малюнкі* **А. Абрамава.**

I

Стары Сымон устаў рана. Памыўся і пайшоў будзіць свайго сына. Падыйшоў да ложака і спыніўся. „Дзе ён?“ запытаўся ў сябе стары Сымон: „Уцёк ці што?“ Ен доўга над гэтым не разважаў. Сымон знайшоў гэтаму прычыну. Стаў лаяць жонку.

— Узгадавалі гультая!.. А ён уцякаць ад бацькі задумаў! Няхай бяжыць! Прыдзе... няпраўда, як есьці захоча. Ня прыдзе—туды й дарога.

Заплакала старая кабета. Яна вельмі кахала свайго сына. А ён, небарака, пасьля ўчарашніх сьлёз прыпаў к лаўцы і заснуў моцным сном. Сымон задуменна хадзіў па хаце. Калі ён у трэці раз падыйшоў да вакна і неўспадзеўкі зірнуў у кут, ён убачыў там Янука.

-- Янук! Янук! Уставай! пара ўжо!

Янук бордзенька прахапіўся і стаў умывацца.

Сьнеданьне было гатова. На стале стаяла зацірка. Ад яе клубкамі валіла пара, і разыходзілася па ўсёй хаце. Селі за стол.

Сьнедалі ціха. Ніхто ня сьмеў прамовіць ніводнага слова. Снеданьне скончылася. Вылез з-за стала стары Сымон, а за ім і ўсе. Янук знайшоў свой стары кажушок, апрануўся і разы два шагнуў па хаце. Усе сядзелі ціха, адзін Сымон нешта буркнуў жонцы. Тая ўзяла засланку і засланіла печ. Сымон зьняў шапку, перахрысьціўся і сказаў: „Ну, сынок пара!“ Расчыніліся дзьверы, і бацька з сынам пераступілі парог. Янук не забыўся зірнуць у апошні раз у хату. Ён убачыў матку, якая стаяла каля печы. Па яе твары каціліся сьлязінкі.

Горача на сэрцы зрабілася ў Янука. „Уцячы! Уцячы! Але куды? Не! Пайду! Пайду! Няхай над мной пануюць чужыя людзі! Няхай!!!“ уголас прамовіў Янук, і пайшоў усьлед за бацькам.

Цяпер нішто яго ні цікавіла: ні рэчка, ні луг, ні птушкі, якія сьпявалі у прасторах. Толькі ля лесу Янук зірнуў у бок хаты, але нічога ня было відаць. Яго агарнуў лес. Зашумелі яліны. Захісталіся маладыя дубкі ад ціхага ветру. Янук вышэй падняў галаву. Аглянуўся. Пачуў, як дзесьці далёка-далёка засьвістаў

дрозд. Яго песьня пракацілася рэхам па ўсім лесе. Яму адгукнулася другая птушка, і затрубіла нібы пастух раніцай. Засьпявалі іншыя птушкі. Усё зьлілося ў адзін хор.

„Ах, як добра ў лесе! Здаецца нікуды-б не пайшоў адсюль!“ падумаў Янук. „Эх, лес, каго ты толькі не радуеш? Хто дае прытулак зьверу, птушкам і няпрытульным людзям? Адзін ты, магутны лес!“

Янук так быў захоплены лесам, нават, забыўся, што ён ідзе к чужым. Але неўзабаве перад яго вачыма мільганула хата.

— Ці ня сюды гэта?—паказаўшы на хату, запытаўся Янук.

— Але, сюды,—адказаў бацька.

Янук нібы перапалохаўся. Сэрца затахкала ў грудзёх.

— Дык Вы мяне тут і кінеце?—зноў запытаў Янук.

—Тут і кіну! Ды скажу, каб цябе трымалі як належыць быць. Тут па рэчках ня будзеш бегаць, а будзеш працаваць!—Сярдзіта адказаў бацька.

— Эх, жыцьцё праклятае! І выпала-ж доля!

Гэтыя словы міжвольна вырваліся з грудзей Янука, але бацька іх не пачуў.

Увайшлі ў хату. Гаспадары абедалі. На куце сядзеў той самы рыжы чалавек, а ля яго круглаліцая дзяўчынка. Каля адчыненага вакна, абапёршыся на стол, сядзеў прыгожы белакуры хлопец. Чорная кабета сядзела на зэдліку і першая абвіла поглядам прышоўшых.

— Хлеб з сольлю! Пасуліў Сымон.

— Калі ласка абедаць к нам!—празьвінеў голас Міколы.

— Дзякую!—адмаўляўся Сымон.

— Сядайце, чаго там...—прапанавала кабета і ляніва зьлезла з зэдліку.

Сымон з сынам селі за стол. Абед праходзіў весела. Гудзела гарачая гутарка. Больш за ўсіх гудзела чорная кабета, жонка Міколы. Яна хвалілася Сымону, што яго сын будзе жыць, як у роднай маткі і шмат яшчэ чаго іншага.

Янук маўчаў. У хаце ён адчуваў сябе чужым. Ён больш стаў адчуваць сябе чужым, калі бацька стаў выходзіць з хаты. Вышаў і Янук, але ён ужо не пайшоў дамоў. Янук стаў сярод двара і глядзеў усьлед за бацькам. Сьлязінкі каціліся па яго тварыку і падалі на сырую зямлю. Ён крычаў хрыплым голасам.

— Я адзін! адзін!.. на гэтым праклятым мейсцы!..

Навокала было ціха-ціха. Сонейка ўжо хавалась за лесам і апошнім праменьнем цалавала хлопчыка.

## II

Ноч. Дзе дзявалася мінулае жыцьцё? Птушкі перасталі сьпяваць. Лес стаў хмурны, страшэнны. Дрэвы шчыльней прытуліліся адно да другога. Кожны куст выглядаў цяпер нейкім нямілым. Здаецца, глядзіць проста на цябе і гатоў кінуцца, сьціснуць у сваіх моцных кіпдзюрох. Страшна цяпер у лесе!

Жыхары хутару даўно адпачывалі. Але чужаніца не давала спакою малому Януку. Ён ляжаў на лаве на сваім кажушку. У яго галаве мільгацелі вобразы роднага кутка. Ён успамінаў тыя часы, калі гуляў з сваімі таварышамі, рэчку, якая так Януку міла. Не забыў крануць у думках сваю маці, якая так яго кахае.

„Ці-ж можна паверыць, што яна мяне не кахае—думаў Янук—калі яна гэтак горка плакала праводзячы мяне? Але што-ж яна магла зрабіць супроць бацькі, які наважыўся мяне абавязкова аддаць к чужым на службу. А цяпер гэткі час! Хто цяпер дагледзіць мяне? За што мяне аддалі к гэтаму чалаваку? Ці-ж прыглядзіць мяне гэтая кабета так як матка“.

Янук доўга разважаў, але сон урэшце адалеў яго, і Янук заснуў трывожным сном. Думкі адна за аднэй яшчэ мільгацелі ў яго галаве. Перад ім уставалі добра знаёмыя вобразы бацькі, маткі, сястры, а потым ўсё гэта зьмянілася у страшэнны сон. Нібы сядзіць ён на пянчуку, сярод густога цёмнага лесу. Кругом яго ходзіць быдла, а ён сядзіць ды цешыцца лесам. Аж раптам кінуліся к яму авечкі, рынулі каровы, зашумелі кусты і паказаліся дзьве нейкія істоты.

Яны кінуліся да Янука і з абодвых бакоў хвацілі за кажушок, адзін нават хапіў хлопчыка за галаву. Янук здрыгануўся на лаўцы і моцна крыкнуў: „Ратуйце мяне! Ратуйце!“

І ён тут-жа прахапіўся. Ён дрыжаў, як у ліхаманцы, а каля яго стаяў гаспадар і трымаў яго за галаву:

— Чаго гэта ты раскрычаўся?

— Ці гэта ў лесе? Абувайся ды гані быдла, вось там накрычысься,—прамовіў гаспадар і адышоў да вакна.

Янук зьлез з лаўкі, шукаючы поглядам сваіх лапцікаў. У гэты час Стэпа падышла да печы, дастала лапцікі і падала Януку. Янук сеў на нізенькім зэдліку, каля ложка. На ложцы яшчэ спаў сын гаспадара. Абуўшыся і надзеўшы свой кажушок, ён выйшаў з хаты і хлопнуў дзьвярыма, за якімі распачалася такая гутарка:

— Ці дала ты яму хлеба,—запытаў Мікола ў жонкі.

— Навошта яму хлеб? Што ён не дачакаецца да пары? Няхай прывыкае, а то яго матка можа расьпеціла!..

Гэтыя словы пачуў і Янук.

„Калі-ж гэта будзе тая пара? Мне ніколі гэтага ні гаварыла матка!“—падумаў сабе Янук і пацісnуў далей.

На двор выйшаў Мікола і накіраваўся да клуні. Ён расчыніў вароты, з якіх пачало выходзіць быдла на шырокі луг, што быў агарожаны з усіх бакоў, толькі вузенькія засаўкі адчыняліся к лесу.

— Гані вось проста ў лес! ды рана не прыганяй! Снеданьне прынясуць!—сказаў Мікола і завярнуўся ў хату.

Сонейка яшчэ ня ўзыходзіла, але лес жыў поўным жыцьцём. Кожны кусьцік напаўняўся песьнямі птушак. Ніводная птушка не сядзела на адным мейсцы. Яны хацелі кожнаму кусьціку аддаць сваё прывітаньне.

Яшчэ больш ажыў лес, калі верхавіны дрэў убраліся у срэбра-праменьні. На кожнай маладзенькай, зялёнай расьлінцы блішчала расіца ад чырвонага сонейка. Янук сядзеў на пянчуку і любаваўся гэтай красой. Ён ніколі ня быў у лесе гэтак рана.

„Вось калі-б тут была наша вёска, мы-б ніколі ня выходзілі з лесу з Сьцёпкам“—падумаў Янук і павярнуўся ў другі бок.

— М-у-у-у! да вушэй Янука даляцела рэха.

— Хто-б гэта?

З-за куста паказалася карова. Янук падхапіўся з пянчука і крыкнуў: „Куды! назад!“ Карова штурханулася каля Янука і пабегла ў яго стадак. Янук падбег да каровы і пачаў яе адганяць, як раптам пачуўся голас:

— Не чапай, няхай ходзіць!

Янук азірнуўся і убачыў невялікага хлопца, які падыйшоў да яго.

— Чаго ты сюды зайшоў?—запытаў незнаёмец у Янука.

— Ці ты ня ведаеш? Я-ж цяпер буду жыць у гэтым хутары,—Янук паказаў пальцам у той бок, дзе стаяў хутар.

— Гэта добра! Цяпер мы будзем пасьвіць скаціну разам!.. А як цябе завуць?..—запытаў незнаёмец.

— Мяне завуць Януком!

А цябе як завуць?

— Мяне—Васілём!..



*Расчыніліся дзьверы, і бацька з сынам пераступілі парог.*

— А дзе-ж ты жывеш?—запытаў Янук.

— Я жыву ў бацькі і наша хата вось там—і Васіль паказаў бок хаты. У гэты час карова нешта ўбачыла, і пабегла па вузенькай сьцежцы.

— Пачакай тут Янук! Я зараз!—сказаўшы гэта, Васіль пабег за каровай.

„У яго бацька!—падумаў Янук—дзе-ж мой бацька?“ За што ён аддаў мяне к чужым? У гэту хвіліну ў яго галаве мільганулі словы:

„Ці ён да пары не дажджэцца?“ А-а гэта-ж мяне бацька аддаў, каб я быў не галодзен, бо дома не хапала есьці, але гэта ня так. Дома няма хлеба і то я гэтак не цярпеў—матка знойдзе!

Хто цяпер мяне прыглядзіць, прыласкае? Ніхто! Ніхто! Я адзін, як былінка ў полі. Я памру... Яны замучаць мяне“...

III

Васіль прыгнаў карову і падыйшоў да Янука. Янук ужо ня плакаў, а сядзеў і нешта думаў. Гэта прыкмеціў Васіль і ласкавым словам запытаў у Янука:

— Чаго ты гаруеш? Тут-жа ў лесе весела, а ты па нечым засумаваў.

— Ах, як я люблю лес! Здаецца нікуды-б не пайшоў цяпер з лесу! Але на мяне ні лес нагнаў смутку. У нас дома няма хлеба, і мяне бацькі аддалі к гэтаму чалавеку. Яны гаварылі, што мне будзе добра, але ўсё гэта ня так... Гэта ўсё ня так... Калі сёньня я выганяў скаціну, то чуў як мае гаспадары размаўлялі паміж сабой. Гаспадар хацеў даць мне хлеба, але гэта страшэнная кабета стрымала яго. Я ўсё гэта чуў сёньня... О, як мне тады было нудна.

Янук прыпаў к плячу Васіля і горка заплакаў.

— Дык чаго ты Янук! Ня плач... на...

Васіль праз сьлёзы суцяшаў Янука і з клумачка выняў хлеб з сольлю. Праз сьлёзы Янук нічога ня бачыў, але рукі самі цягнуліся да хлеба, бо ўжо вельмі-ж псзна было.

— Ну цяпер Янук пагонім скаціну дамоў? Прамовіў Васіль.

— Мне гаспадар казаў рана ня прыганяць...

— Ужо-ж сонца на поўдні!..

— Мне казалі прынясуць сьнеданьне!..

— Дзе там сьнеданьне, калі абедаць пара!.. Пагонім!

Хлопцы гутарылі і падганялі скаціну дамоў. Цераз некаторы час яны спыніліся каля загарожы. Тутака хлопцы разышліся і пагналі кожны сваю скаціну. Янук загнаў скаціну ў заградзь і накіраваўся на двор, шпарка адчыніў вароты за якімі пачуўся голас:

— Цьфу! каб табе рукі адламала!—вылаяўся Мікола,—хто там?

— Гэта я адгукнуўся Янук.

— Ну, дык жры!—і Мікола паказаў на разьбітую махатырку.

— Дзе гэта ты пасьвіў што я цябе нідзе не знайшоў! (У той час, як Мікола нікуды ні хадзіў).

— Мы пасьвілі недалёчка ад дарогі!

— З кім ты пасьвіў?!

— З Васілём!..

— Гэта ты пасьвіў з гэтым басяком?! Глядзі, каб гэта было ў апошні раз!..

— Ён-жа добры хлопец!

— Маўчы!—гыкнуў Мікола—я цяпер твой бацька, і ты не супярэч мне, а то зараз пападзе!..

Мікола са злосьці пайшоў у хату, а за ім схіліўшы галаву пайшоў і Янук. Расчыніліся дзьверы і раздаўся сярдзіты голас:

— Стэпа, дай яму есьці!

— Ты-ж яму занёс!

— Дзе там занёс! Вынес, а ён і разьбіў!

— Разьбіў махатырку?! — перапыніла Стэпа.

— Але разьбіў!

— Ну дык ён сваё і зьеў! Няхай гэтым будзе сыты! Ах, якая добрая была махатырка! Во дзіця, дык дзіця! Колькі пабыў часу, а ўжо зрабіў гэткую шкоду! Ах-ах...

Стэпа доўга чытала гэткую малітву над хлопцам. Януку ўжо не хацелась есьці. Ён вышаў на двор, разуўся і сеў на прызьбе пад сонцам. Праменьні сонца глядзелі проста ў твар малому, і падумаў: „Гэта сонейка сьвеціць і над нашай вёскай! Але там яно сьвеціць гарачэй! Там матка, бацька! А тут—чужыя! Яны не даюць мне есьць. Што гэта яны хочуць зрабіць са мною?.. Загубяць... Загубяць... Вось калі-б цяпер дамоў, нічога-б не хацеў на сьвеце!“ Расчыніліс вокны і раздаўся голас: „Янук хадзі абедаць!“ Янук устаў і ціхімі крокамі пайшоў у хату. За сталом сядзелі Мікола, сын Лявон і пяцігадовая дзяўчынка. Сеў Янук за стол. Усе глядзелі на яго скоса. Стэпа падавала яду і сама падсажывалась на канцу зэдліку. Абед праходзіў сумна для Янука. З галавы не выходзіла думка: „Ах каб скарэй ноч!“ Абед скончыўся і ўсе па адным павылезьлі з-за

стольля. Янук, не адпачываўшы, зноў пагнаў скаціну ў лес. Ён не пагнаў больш к Васілю, бо помніў пагрозы Міколы.

Янук астаўся адзін акутаны з усіх бакоў цёмным лесам, як былінка ў полі, якую агарнуў белы сьнег. Добра ў лесе калі птушкі сьпяваюць песьні! Добра робіцца тады на сэрцы! Але не заўсёды гэта бывае. Бывае час калі чалавек сядзіць у лесе адзін ды перабірае ў думках сваё жыцьцё пражытае ў горы, тады ўсе гэтыя песьні наводзяць на чалавека смутак.

IV

Янук хадзіў за скацінай сумным і ня мог дачакацца вечару. Сонца ўсё ніжэй ды ніжэй спускалася за лес і кідала сваё праменьні на ахаладзеўшыя расьліны. Янук парашыў ужо гнаць з адвячорку.

З-за кустоў мільгануў хутар. У Янука па целе прабеглі дрыжыкі. Ён баяўся хутара, нібы якога зьвера. „Скарэй бы тая ноч! Мне ўсё роўна ня жыць! Яны згубяць мяне! У мяне няма тут нікога роднага. Каму я пажалюся? Хто бачыць мае сьлёзы? Ці-ж можна больш жыць на сьвеце? Не! Не! Ніколі... Ніколі...“

Янук рашыў чакаць ночы. Каровы ўзышлі на двор і пашлі ў клуню. Янук ўвайшоў у хату і стаў здымаць свой кажушок, як раптам к яму падскочыла Стэпа і матнула кулаком каля яго твару.

— Справіўся! прыгнаў... замарыўся! Ах, ты басяк! Марш!.. Гані ў загарадзь! Табе скажуць калі прыгнаць. Ах ты самадум!..

Стэпа яшчэ доўга крычала, але Янук ня чуў нічога. Ён ня чуў, як крычалі на яго, лаялі, як бляялі авечкі, гудзеў вецер,— ён нічога ня чуў. Страшэнныя вобразы ўставалі ў яго галаве: то чуў голас маткі бацькі, то страшэнныя вочы гаспадыні глядзелі на яго з усіх бакоў. Яму было так страшна, што ён не хацеў есьці, нічога не хацеў! „Я ня буду больш у іх начаваць! Мне так страшна ў іх... я не пайду!.. я ня буду жыць на сьвеце!.. Зарэжуся ці утаплюся... Няхай плачуць бацька, маці! Няхай плачуць, калі ім мяне шкода! А я ня буду больш плакаць! Я... я задаўлюсь... зарэжусь... затаплюсь...

Усе засыналі моцным сном, Янук ня спаў. У яго галаве вярцелася адна думка: „зарэзацца... утапіцца“...

Па хаце пайшло храпеньне Міколы, якому падцягваў Лявон. „Пара!“—прашаптаў Янук і зьлез з прыпечку.—„Я ня буду больш тут!

Расчынілася вакно...



*А цяпер куды?*

— А цяпер куды? У вір... у вір... Трэба скарэй... каб не пачулі...

І Янук блытаючыся пайшоў па вузенькай сьцежцы, якая вяла да ракі.

Двурогі месячык абліваў срэбрам рэчку. Наўкола было ціха-ціха, толькі ў балотах крумкалі жабы ды зрэдку плёхалася рыбка.

Янук узышоў на круты бераг і глянуў у вір. Здрыгануўся. Вір стаў нейкім ч о р н ы м страшыдлам.

Пад берагам калыхалася высокая трава. Чарот шапацеў паміж сабой, а воддаль бліснула люстэрка вады.

— Усе роўна згіну... згіну... згіну...

Рукі самавольна падняліся і нахілілася ўсё цела.

Янук узяўся рукамі за галаву і паляцеў наўзьніч. Ён не папаў у вір, а на мяккую, расістую траўку, якая абняла малога.

Януку здавалася, нібы ён паляцеў на калені маці, якая абняла малога, а ён праз сьлёзы расказвае, як над ім зьдзекаваліся.

**Д. Л. Малаеў.**

# З ЗАПІСАК ЮНАТАЎ.

## Мае нагляданьні за ваверкай.

У гэтых нататках я ня буду перапісваць увесь свой дзеньнік назіраньня за ваверкай, бо гэта будзе няцікава і задоўга. Я прывяду толькі некаторыя назіраньні за ёй, зробленыя мною. Тыя або іншыя характэрныя асаблівасьці гэтай жывёлы.

Ваверку, аб якой ідзе гутарка, я злавіў вясною зусім маладой яшчэ, у невялічкім ляску, недалёка ад яе гнязда. Злавіць яе было ня зусім лёгка, бо яна была ўжо досыць вялікая і спрытна скакала з дрэва на дрэва. Калі-ж я яе схапіў рукамі, яна ўкусіла мяне за палец.

Прынёсшы дамоў, я пасадзіў яе ў клетку, куды паставіў малака і цукру. Спачатку яна доўга кідалася па клетцы, але праз нейкі час супакоілася, прытуліўшыся ў адным з куткоў клеткі. Паклаўшы цукар перад самым носам ваверкі, я пакінуў яе адну. Вярнуўшыся гадзіны праз паўтары, я застаў яе ў тым-жа становішчы, але цукар быў абгрызены. Першыя 2 дні ваверка была сумнаю, але патроху асвойчылася і часта бегала па клетцы. Пры людзях-жа — прыціхала і хавалася ў мяшок, які я зрабіў ёй для спаньня.

Прыблізна праз тыдзень, я пачаў выпускаць яе пабегаць па пакоі, а сам, чытаючы якую-небудзь кніжку, наглядаў за ёй.

У першы раз яна пачала кідацца па ўсім пакоі, шукаючы якой-кольвек дзіркі каб уцячы, але, прызвычаіўшыся, бегала па вазонах або забіралася на шафу ці на раму вакна і там сядзела ціхенька цэлымі гадзінамі, сочачы за мной. Патрэбна-ж было мне трохі ўзварухнуцца, як яна зараз-жа пачынала непакоіцца. Сваё непакойства яна выяўляла скаканьнем, віляньнем хвастом і тупаньнем заднімі лапкамі. Пры гэтым яна вытварала характэрны гук, падобны да слоў: чок-чок-чок.

Ня гледзячы на маю цярплівасьць, ваверка прывыкла да мяне вельмі ня хутка, асабліва-ж ня любіла яна, калі я браў яе на рукі, усё старалася ўкусіць за руку. Калі я аднойчы прывёў у пакой сабаку, ваверка надта перапалохалася і з піскам кінулася на раму вакна.

Карміў я ваверку ў большасьці арэхамі, цукрам і малаком, якое яна асабліва любіла. Пасьля гэтага я ня бачыў яе ў працягу 5-ці тыдняў па прычыне ад'езду. Вярнуўшыся, я сустрэў яе падросшай, але мала прыручанай: як і раней уцякала, убачыўшы мяне і толькі тады, калі была галоднай, часамі брала яду з рук.

Сон быў адным з галоўных яе заняткаў. Спаць яна магла без абмежаваньня часу, абы толькі была не галоднай. У працягу сутак яна звычайна спала 13—15 гадзін і вельмі была нездаволена, калі ёй перашкаджалі гэта рабіць: сярдзітая, з сонным выразам мысачкі, ускаквала яна з свайго спальнага мяшка і ўсёй істотай сваёй выказвала гэтае нездавальненьне.



Матцы трэба дапамагчы!

Калі я ўводзіў у пакой свайго „таксу“, загадзя строга загадаў-

шы яму не чапаць вавёркі, яна спачатку кідалася па пакоі, а пасьля, прысеўшы дзе-небудзь, на стале, з захапленьнем і цікавасьцю разглядала сабаку. Апошні ў сваю чаргу ўважліва разглядаў вавёрку. У гэткай цішыні яны маглі сядзець цэлымі гадзінамі, покі я так ці інакш не парушаў гэту цішыню. На другога майго сабаку вавёрка мала зьвяртала ўвагі і нават гуляла пры ім. Але якімсьці ўнутраным чуцьцём яна пазнала, што галоўным яе ворагам у хаце зьяўляецца кошка. І калі я ўносіў да яе кошку, яна пачынала страшэнна кідацца, пакуль не забярэцца ў куток на печку, доўга ня выказваючы ніводнага гуку. Седзячы-ж у клетцы, наадварот, яна выказвала вельмі мала страху (напэўна, думаючы, што клетка зьяўляецца добрай забаронай) і ўсеўшыся на кійку, спакойна разглядала кошку. Аднойчы я прынёс у пакой вожыка. Вавёрка, на вялікае маё зьдзіўленьне, пачала яго абнюхваць і нават ускочыла яму на сьпіну, але, укалоўшыся, адскочыла ў бок і, не зьвяртаючы на яго ўвагі, узялася за арэхі. Але тут здарылася нечаканае для вавёркі, вожык пачаў рухацца і папоўз, а яна з дзікасьцю кінулася на печку.

**Ігар Бонч-Асмалоўскі**

Вучань 7-й клясы 4-й сямігодкі.

(Менск).

## Назіраньне за яшчаркай.

Для назіраньня мы ўзялі шклянку, палажылі на дно пяску, моху і сухіх лісьцяў, паставілі сподачак з вадой і пасадзілі туды яшчарку. Яшчарку мы знайшлі ў лесе. Жывіцца яна ў большасьці мухамі. Даўжыня нашай яшчаркі—3 сантымэтры, тулава мае $2^1/_2$ сант. і галава $1^1/_2$ сант. Хвост складае амаль палову ўсяго тулава.

Наша яшчарка мае шэравата-буры колер. Гэты колер дапамагае яшчарцы быць няпрыкметнай у лесе або балоце.

Па шурпатай паверхні яшчарка рухаецца хутчэй, чым па гладкай: гэта мы заўважылі самі. Жывіцца яна большасьцю мухамі, якіх мы ловім і кідаем у шклянку. Мы заўважылі, як яна прыпільнавала муху, падпаўзла да яе і схапіла ротам.

У халодныя і пахмурныя дні яшчарка невясёлая, мала рухаецца і мала есьць.

У яе вельмі добры зрок і чуцьцё: калі мухі бегалі па накрыўцы шклянкі, яна старалася па шкле падняцца ўверх, але гэтага ёй не ўдавалася зрабіць. Калі мы вынімаем яе з шклянкі і кладзем на стол, дык яна, паўзучы, высоўвае язык, значыцца язык служыць ёй ворганам вошчупу.

У першых ліках лістапада мы паставілі яе паміж рам у вакне і яна, закапаўшыся ў пяску, заснула на зіму.

**В. Роцька і Т. Сіўко.**

(Вучні 6-е клясы).




Савет атраду абмяркоўвае пытаньне, як правесьці ў атрадзе МДТ

# Назіраньне за жабай.

Маросіць дождж, холадна. Валэндаемся каля ракі ў гарадзкім садзе, шукаючы жабы. Але нам пашанцавала; мы ўбачылі жабу, якая скакала з вады на траву.

З вялікім здавальненьнем прынесьлі яе ў дом і пасадзілі ў скрынку. У першы дзень яна нічога ня ела і хавалася за траву, якая была пасаджана ў скрынцы.

На другі дзень яна зьела некалькі мух і маленькі кусочак мяса. А яшчэ дні праз два—зьела каля 25 мух. У гэты-ж дзень праз гадзіны дзьве мы заўважылі, што яна ляжыць брухам уверх, нібыта няжывая. Калі адчынілі скрынку, яна ня рухалася і ўвесь час трымала адчыненым рот, вочы-ж—зачынены. Праз некалькі хвілін яна пачала рухацца і зусім ажыла.

Калі скрынка была насьцеж адчыненай, жаба адным скокам выскачыла з скрынкі і апынулася ў другім кутку пакоя. У пяцярох мы ледзь яе злавілі, бо скакала вельмі хутка.

У нядзелю 24-IX яна многа ела і весела скакала ў скрынцы. У поўдзень мы да яе прынесьлі яшчэ 2-х таварышак.

Серада—27-IX. Жабы любяць агонь і сьвятло і цягнуцца да яго. Ядуць многа. Пробвалі даваць чарвякоў, не ядуць. Удзень яны зусім нячутны, затое ноччу не даюць спаць.

Нашы жабы хутка растуць і радасьць нам прыносяць. Ядуць яны добра, а ў выпадку недахопу спажывы, падыходзяць да ваkенца скрынкі і карабкаюцца ўверх. Тады добра відаць іх моцныя ногі досыць тоўстыя каля тулава.

14-X. Жабы нашы ў вясёлым настроі. Яны вельмі любяць абноўку. Калі ім паставілі лавачку і палажылі камень, яны ўвесь час ня злазяць з іх.

**Клебанавы, Ліза і Міна.**

(4-я школа).

# Шкоднікі агарода—капусьніца і сябры агарода—наезьнікі.

20-IX—Узялі шкло, зрабілі інсэктарыум, пасадзілі туды 25 вусеняў разам з лістамі, на якой яны былі знойдзены.

21-IX—На шкле ў кутках і на дзьверцах інсэктарыума заўважылі ніткі, якія выпусьцілі вусені. Некаторыя з іх, наеўшыся, выпаўзаюць на шкло і сядзяць нярухома, заблытаўшы сябе тоненькімі нітачкамі, але гэткіх вельмі мала і іх амаль ня відаць.

22-IX—Паставілі сподачак з вадой. Яны п'юць, але вельмі мала, многа ядуць.

23-IX—Увесь інсэктарыум пакрыўся ніткамі, якія выпусьцілі вусені.

24-IX—Некаторыя вусені паўзлазілі на дзьверцы інсэктарыума і сядзяць там нярухома, астатнія ядуць бязупынна.

25-IX—У часткі вусеняў зьявіліся маленькія чарвячкі, якія знаходзяцца навокала іх.

26-IX—Маленькія чарвячкі абярнуліся ў коканы, якія маюць яркі колер. Па кутках інсэктарыума сядзяць астатнія вусені; яны надта тоўстыя. З іх, мусіць, выйдуць кукалкі.

27-IX—Усе чарвячкі, якія мы ўзялі для назіраньня за наезьнікамі, абярнуліся ў наезьнікаў. Паклалі зямлі, перамянілі ваду, наверх паклалі лісьце.

28-IX—Вусені ядуць вельмі многа і таўсьцеюць не па днях, а па гадзінах. Яшчэ адзін вусень акуколіўся, астатнія застаюцца бяз зьмены.

29-IX—Ад некаторых вусеняў засталася толькі шкурка, як відаць яны былі азаражаны наезьнікамі.

31-IX—Налілі чыстай вады і палажылі сьвежых лісьцяў.

2-X—Выявілася яшчэ адна кукалка, усіх кукалак у нас—6.



6-X—Прынесьлі з агароду яшчэ 2 вусені. У інсэктарыуме зрабілі ачыстку.

10-X—Вывеўся матылёк. Кормім яго цукрам разьведзеным у вадзе.

(*З дзеньніку вучняў Я. Кац і І. Юдовіч*).

# Як вымераць любую адлегласьць.

Вымераць адлегласьць да прадмета, да якога нельга падыйсьці, ці вышыню гэтага прадмета, на які нельга узьлезьці,— справа, на першы погляд, ня лёгкая. Аднак гэта ня зусім так: з дапамогаю вельмі простых прыладаў, кожны піонэр можа зрабіць падобныя вымярэньні сам. Некалькі гэткіх спосабаў мы і апішам.



Рыс. 1

**I. Вымераць шырыню ракі.** Перш за ўсё зробім патрэбны нам струмэнт. Возьмем невялікую дошчачку і нарысуем на ёй трыкутнік з простым кутом, прычым бакі яго *ав* і *вс* павінны быць роўныя паміж сабою. У вяршыні гэтага трыкутніка *а*, *в*, *с* уткнеце тры шпількі—наш струмэнт гатоў (рыс. 1). Дапусьцім, што нам трэба азначыць шырыню *АВ* ракі (рыс. 2), прычым мы знаходзімся на тым беразе, дзе пункт В. Стаўшы дзе-небудзь ля пункту *В*, трымайце свой струмэнт ля вачэй так, каб, гледзячы адным вокам усьцяж шпілек *а* і *в*, вы бачылі, як абедзьве яны пакрываюць пункты *В* і *А*. Цяпер, не варушачы дошчачкі, глядзеце усьцяж другіх дзьвёх шпілек *с* і *в* і заўважце які-небудзь пункт Д. Пасьля гэтага ўткнеце ў пункце *С* палку і ідзеце з вашым струмэнтам усьцяж лініі *СД*, пакуль ня знойдзеце на ёй такі пункт *Е* (рыс. 3), адкуль можна будзе адначасна бачыць пункт А, гледзячы ўсьцяж шпілек *а* і *с*, і пункт *С*, куды мы ўбілі палку, гледзячы на яго ўсьцяж шпілек *с* і *в*. Цяпер застаецца толькі вымераць адлегласьць *ЕС*: яна павінна раўнацца адлегласьці *АС*. Затым вымераўшы адлегласьць *ВС* і адняўшы яе ад *АС*, мы і атрымаем шырыню ракі *).




Рыс. 2

Каб азначыць адлегласьць да недаступнага прадмета, разьмеры якога нам вядомы, можна карыстацца другім спосабам. Выцягнем наперад руку (рыс 4) і будзем глядзець на выстаўлены палец (3) спачатку правым вокам (1), затым левым (2). У першым выпадку мы ўбачым, што палец (3) пакрывае на прадмеце пункт 4, у другім выпадку—той-жа палец пакрывае ўжо другі пункт 5. Паводле правіл гэомэтрыі, прамежак 4—5 у столькі раз больш за прамежак паміж вачыма (1—2), у колькі раз адлегласьць ад пальца (3) да недаступнага прадмета больш за адлегласьць ад пальца да вачэй. Адлегласьць паміж зрэнкамі (зрачкамі) вачэй ня цяжка вымераць; дапусьцім, напрыклад, што яна роўна С сантымэтрам. Адлегласьць ад вачэй да пальца выцягнутай рукі таксама лёгка вымераць; няхай яна раўна 60 см. Дапусьцім далей, для прыкладу, што недаступны прадмет—таварны поезд і што прамежак паміж пунктамі 4 і 5 уключае $2^1/_2$ вагоны. З тэй прычыны, што даўжыня таварнага вагону заўсёды адна і тая-ж—8 мэтраў, то прамежак 4—5 раўняецца $8\times2^1/_2=20$ мэтраў$=2000$ сантымэтраў. Цяпер пішам пра-




Рыс. 3

*) Вельмі нязручна і цяжка трымаць у руцэ струмэнт нярухома і пагэтаму лепш за ўсё прымацаваць гэту дошчачку да палкі з загостраным канцом, якую і ўтыкаць старчаком у зямлю.

412

ЦАНА 12 кап.




порцыю: $\frac{2000}{6} = \frac{\text{невядомая адлегласьць}}{60}$.

Адсюль, па правілах арытмэтыкі знаходзім, што невядомая адлегласьць=200 мэтраў.

**II. Азначыць вышыню дрэва.** Каб азначыць вышыню якога-небудзь прадмета—напрыклад, дрэва—прасьцей за ўсё карыстацца ценьню. Справа ў тым, што пры сонечным асьвятленьні цень тым, даўжэй, чым вышэй прадмет, які адкідае яе: калі цень утройчы даўжэй, дык і прадмет утройчы вышэй. Каб, карыстаючыся гэтай уласьцівасьцю, вымераць у ясны дзень вышыню дрэва на *роўным* месцы, утыкаюць у зямлю палку так, каб над зямлёю ўзвышалася, дапусьцім, 2 мэтры (рыс. 5). Затым вымераюць цень ад дрэва (няхай яна будзе 45 мэтраў) і цень ад



палкі (няхай яна=3 мэтрам). Разважаем так: цень дрэва даўжэй за цень палкі ў 15 раз; значыцца, у столькі-ж раз і дрэва вышэй за палку. Памножыўшы вышыню палкі—2 мэтры на 15, атрымаем вышыню дрэва $2 \times 15 = 30$ мэтр.

Але-ж не заўсёды неба бясхмарнае. Здараецца, што трэба вымераць вышыню дрэва і ў хмарны дзень, калі цені няма. Ці можна абыйсьціся без яе?. Зразумела, можна. Мы пазнаёмім чытачоў з найбольш простым спосабам. Палку ўтыкаюць так, каб выступаючая частка яе раўнялася вышыні вашага росту, лічачы да роўню вачэй. Затым вы кладзецеся на



зямлю, як паказана на рыс. 6. Пры гэтым вы павінны бачыць верхні канец палкі супадаючым з верхавінай дрэва. Калі гэтага супаданьня няма, вы адсоўваеце палку далей ад дрэва ці прысоўваеце бліжэй, пакуль патрэбны пункт ня будзе знойдзен. Цяпер застаецца толькі вымераць адлегласьць ад вашай галавы (у ляжачым стане) да асновы дрэва: па правілах гэомэтрыі яна павінна раўняцца вышыні дрэва.

# ХТО ЛЯПЕЙ?

**ДЗЯТКОРЫ! Пішыце, як вашы атрады думаюць скарыстаць лета, што яны цікавае організавалі?**

**Аб гэтым хочуць ведаць усе піонэры Беларусі.**

1-я друкарня БДВ. Заказ № 2295. У ліку 2750. Галоўлітбел № 1216.